© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015




# НавінЫ

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

нумар 6 (23) жнівень 2000 г.


## Беларусь адзначыла Дзень Незалежнасьці

***27 ліпеня споўнілася 10 гадоў з дня прыняцьця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Юбілей адзначаўся ў Менску й рэгіёнах краіны, прычым формы сьвяткаваньня былі самыя розныя.***

**Менск**

У Менску на канфэрэнцыі, прымеркаванай да дзясятых угодкаў Дэклярацыі (ініцыятарам арганізаваньня канфэрэнцыі быў Вярхоўны Савет), з дакладам, прысьвечаным дзесяціgодзьдзю незалежнасьціБеларусі выступіў старшыня БНФ «Адраджэньне» й Партыі БНФ Вінцук Вячорка.

У гэты ж час прадстаўнікі Маладога Фронту правялі ў Менску сэрыю т.зв. «лятучых пікетаў»: 15 хлопцаў і дзяўчат (дзесяцёра зь іх былі апранутыя ў белае, а пяцёра - у чырвонае, пад колеры нацыянальнага сьцягу), фатаграфаваліся на фоне дзяржаўных установаў, выстройваючыся ў кампазыцыю бел-чырвона-белага сьцягу - сымбалю беларускай незалежнасьці.

Маладыя людзі ішлі ў суправаджэньні журналістаў ды вялікай колькасьці міліцыянтаў і супрацоўнікаў спэцслужбаў (супрацоўнікі «органаў» пацягнуліся за «калёнай» адразу ж пасьля першага фатаграфаваньня). «Лятучыя пікеты» пасьпелі пабываць і сфатаграфавацца, трымаючы ў руках лёзунгі «Жыве Беларусь!», «Моладзь за Беларусь!», ля галоўнага корпусу БДУ, Дому Ўраду, Менгарвыканкаму, КДБ, Міністэрства замежных справаў, Канстытуцыйнага Суду, Палацу Рэспублікі, «нулявога кілямэтру», Адміністрацыі прэзыдэнта. Удзельнікам пікету шмат разоў перагароджвалі дарогу, а ля Дому Ўраду міліцыя паспраба-

**Працяг на стар.2**




*Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выступае на Ўсебеларускім зьезьдзе за незалежнасьць*

## АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага Зьезду, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

— усьведамляючы адказнасьць за будучыню краіны;

— нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь зьяўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;

— грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага й нацыянальнага права,

ЗАЯЎЛЯЕМ:

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасьці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце сьцвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага разьвіцьця і дабрабыту, годнага жыцьця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасьць краіны ў вонкавых дачыненьнях, вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеяньні супраць сувеэрэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасьці недапушчальныя й павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны сувэрэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 году. Паводле яе Беларусь увайшла ў сьвет як нэўтральная, мірная й бязьядзерная дзяржава.

Незалежнасьць Беларусі зьяўляецца набыткам ня толькі сёньняшняга пакаленьня, але й нашых продкаў і належыць нашчадкам. Сувэрэнітэт краіны ня можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэньні дзяржаўных асобаў і органаў, нават праз рэфэрэндум.

**Працяг на стар.7**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



пачатак на стар. 5

# Беларусь адзначыла Дзень Незалежнасьці

вала затрымаць аднаго з журналістаў, палічыўшы яго, відаць, за пікетоўца (ён быў апрануты ў чырвонае). Апошняй кропкай акцыі стала расейская амбасада, дзе меркавалася ўручэньне пэтыцыі зь віншаваньнямі з нагоды Дня Незалежнасьці Беларусі. Аднак прадстаўнікі РФ віншаваньне браць адмовіліся. Праз 10 хвілінаў чаканьня яны паведамілі, што могуць прыняць яе выключна факсам.

З 18.00 да 22.00 на пляцы Бангалор праходзіў сьвяточны канцэрт пад лёзунгам «10 гадоў - 10 гітоў!» - кожнаму году незалежнасьці Беларусі адпапвядаў адзін гіт. Удзельнічалі ў акцыі і маладыя і найпапулярнейшыя беларускія каманды: Postskriptum, Млын, Z, Камэлот, Новае Неба, NRM. Вёў канцэрт старшыня Маладога Фронту Павал Севярынец - распавядаючы коратка перад чарговым гітом пра тое, чым быў адметны кожны год незалежнасьці.




Лятучы пікет на праспэкце Ф. Скарыны

### Магілёў

Раніцай 27 ліпеня магілёўцы пабачылі дзясяткі папяровых нацыянальных сьцяжкоў, разьвешаных на дрэвах ды іншых месцах у цэнтры гораду. Так магілёўскія маладафронтаўцы сустрэлі Дзень Незалежнасьці ды нагадалі пра сьвята землякам. Прыдумка з закідваньнем сьцяжкоў, як сьцьвярджаюць самі маладыя магілёўцы, новая й эфэктыўная, бо зьняць сьцяжкі, заблытаныя ў лістоце, вельмі цяжка, а відаць іх здалёк. Сьцяжкі правіселі цэлы дзень, ствараючы людзям сьвятотчны настрой.

27 ліпеня ў ДК Швейнікаў мусіла адбыцца сьвяточнае паседжаньне й канцэрт папулярнага на Магілёўшчыне гурта «Верасень» з Горак. Усё было санкцыянавана ўладамі. Аднак а 18 гадзіне, калі людзі ўжо сабраліся каля Дому культуры, стала вядома, што канцэрту ня будзе, бо гурт ня выпусьцілі нават з саміх Горак.

Тады людзі, узяўшы ў рукі бел-чырвона-белыя сьцяжкі ды віншавальныя ўлёткі, прайшлася вуліцамі гораду. Без перашкодаў сьвяточная калёна колькасьцю блізу 70 чалавек пракрочыла цэнтральнымі вуліцамі й спынілася ля гістарычнага цэнтру горада - Пелагееўскага гарадзішча, дзе быў зладжаны невялікі мітынг. Нягледзячы на значную колькасьць міліцыі і амону, эксцэсаў не адбылося. Пасьля мітынгу магілёўцы разьшліся па хатах, каб у сямейным коле працягнуць сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці.

### Горадня

Горадня ў гонар Дня Незалежнасьці правяла некалькі пікетаў у розных раёнах гораду. Пікеты ладзіліся прадстаўнікамі БНФ, Маладога Фронту, БСДП (НГ) і БСДГ.

Вечарам у палацы «Юнацтва» адбылося ўрачыстае паседжаньне ў гонар 10-й гадавіны прыняцьця Дэклярацыі аб незалежнасьці, на якім прысутнічала каля 400 чалавек, у т. л. прадстаўнікі палітычных партыяў ды грамадзкіх арганізацыяў. Пасьля ўрачытага паседжаньня адбыўся канцэрт, на якім выступілі Віктар Шалкевіч, ансамбаль «Дударыкі», сьпявачка Вера Ярошына ды іншыя выканаўцы.

### Віцебск

У Віцебску прайшоў сход у парку імя Караткевіча, пасьля чаго ў адной зь віцебскіх кавярняў адбылася сьвяточная імпрэза. Арганізатары плянавалі ў ліку сьвяточных акцыяў і правядзеньне тэатральнага прадстаўленьня, але за чатыры дні да Дня Незалежнасьці ўлады нечакана адмовілі ў дазволе.

На сьвяточнай імпрэзе, дзе прысутнічалі прадстаўнікі палітычных партыяў, выступілі кіраўнікі мясцовага БНФ.

### Бабруйск

Улады Бабруйску забаранілі плянаваны актывістамі палітычных партыяў пікет у Дзень Незалежнасьці. Але людзі ўсё ж такі сабраліся на пляцы і спрабавалі разгарнуць адмыслова прынесеныя плякаты. Гэтаму, аднак, перашкодзілі міліцыянты. Тады бабруйчане скіраваліся да помніку-камяню ў памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, дзе ўсклалі вянкі й кветкі ды запалілі сьвечкі ў памяць загінулых за незалежнасьць.

### Наваполацак

У Наваполацку ў гонар Дня Незалежнасьці адбыўся мітынг, на якім выступілі прадстаўнікі БНФ. Удзельнікамі мітынгу была прынятая рэзалюцыя аб падтрымцы Ўсебеларускага зьезду за Незалежнасьць і пра няўдзел палітычных партыяў у выбарах у «палату».

### Баранавічы

Баранавіцкі БНФ падаваў заяўку на пікет, але гарадзкія ўлады дазволу не далі. Тым ня менш, каля 30 чалавек сабралося 27 ліпеня ў гарадзкім парку ў цэнтры гораду. Моладзь сьпявала пад гітару, спрабавалі нават павесіць на флягштоку парку бел-чырвона-белы сьцяг (перашкодзілі амонаўцы зь міліцыянтамі).

Баранавіцкая Рада БНФ падала ў суд на гарадзкія ўлады, якія забаранілі пікет 27-га, дазволіўшы яго правядзеньне чамусьці толькі 23 ліпеня. Фронтаўцы Баранавічаў ужо маюць добры досьвед у падобных справах. Раней яны выйгралі суд супраць свайго тагачаснага мэра Паўлава (цяпер ён старшыня Менгарвы-



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015


канкаму), які незаконна перанёс пікет, што мясцовы БНФ прымяркоўваў да Дня Канстытуцыі 15 сакавіка сёлета. Паўлаў палічыў тады, што акцыю можна дазволіць толькі 21 сакавіка, і, ня маючы такіх паўнамоцтваў, сам перанёс пікет на 5 дзён пазьней.

### Маладэчна

У Маладэчне актывісты дэмакратычных партыяў і прыхільнікі незалежнасьці ўсклалі кветкі да памятнага знаку «Пакутнікам за волю й незалежнасьць Беларусі» на цэнтральным пляцы гораду. Пасьля ўскладаньня кветак і чытаньня вершаў людзі скіраваліся ў гарадзкі парк, каб паслухаць беларускага барда Андрэя Мельнікава. Але ў парку нечакана пачаўся «хапун». Былі затрыманыя Алесь Капуцкі (старшыня Маладэчанскай Рады БНФ), Сяргей Боскін, Яўген Лугоўскі. У РАУСе, куды завезьлі затрыманых, міліцыянты абвінавачвалі іх у несанкцыянаваным мерапрыемстве. На Я. Лугоўскага быў складзены пратакол за выкарыстаньне незарэгістраванай сымболікі. Пазьней усіх затрыманых адпусьцілі.

### Марына Горка

Мітынг, які мусіў прайсьці на марынагорскім стадыёне, быў забаронены старшынём Пухавіцкага райвыканкаму Г. Шахлевічам. Каб не абвастраць становішча, арганізатары вырашылі мітынг не праводзіць. Ня гледзячы на забарону, сабралося блізу 100 чалавек. На патрабаваньне начальніка Пухавіцкага РАУС Р. Барысава разыйсьціся, людзі адмовіліся, заявіўшы, што мітынгаваць не зьбіраюцца, а будуць толькі сьпяваць песьні, бо сьвята ніхто не адмяняў. На канцэрце выступілі бард Аляксей Галіч і фальклёрны гурт зь вёскі Талька. Пасьля канцэрту сьвяткаваньне ня скончылася. Група энтузіястаў у народных строях, зь бел-чырвона-белымі навязкамі на галовах і сьцягамі на плячах, сьпяваючы народныя й патрыятычныя песьні, адправіліся на прагулку па горадзе. Затрыманьняў не было.

### Заслаўе

У Заслаўі на гарадзкім стадыёне прайшоў сьвяточны мітынг. Акцыя была санкцыянаваная ўладамі.

### Ваўкавыск

У Ваўкавыску ў 10-ю гадавіну прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэцеБеларусі дэмакратычная апазыцыя наладзіла пікет за незалежнасьць.

### Лагойск

12 актывістаў БНФ разам з намесьнікам старшыні БНФ Юрыем Хадыкам сустрэліся пад Лагойскам, каб адзначыць Дзень Незалежнасьці. Было вогнішча, узьняты нацыянальны сьцяг, прайшла дыскусія наконт сучаснай сытуацыі ў Беларусі.

### Воранава



*Лятучы пікет ля Дому Ўраду*

У Воранаве на Цэнтральным стадыёне прайшоў пікет за незалежнасьць.

***У Буда-Кашалёве, Бярозе, Пінску, Берасьці*** акцыі ў гонар Дня Незалежнасьці былі забароненыя ўладамі.

**Аляксей ШЭІН**

### Гомель (затрыманьні і суды)

На Дзень Незалежнасьці каля Гомельскага аблвыканкаму адбыўся несанкцыянаваны пікет, у якім узялі ўдзел сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Кацярына Гаравая і прыхільнік гэтай партыі Ігар Раманаў (жыхар пасёлку Доўск Гомельскай вобласьці). Удзельнікі пікету трымалі ў руках плякаты, на якіх было напісана: "З Днём Незалежнасьці", "Не – фашызму ў Беларусі" (супраць актывізацыі дзейнасьці прафашысцкай арганізацыі РНЕ ў Гомелі), і інш.

Пікетоўнікі змаглі прастаяць усяго каля паўгадзіны, потым да іх пад'ехаў нарад міліцыі з Цэнтральнага РАУСу г.Гомеля (усяго сем чалавек) і затрымаў. Пры затрыманьні да І.Раманава быў ужыты гвалт – яго кінулі тварам на падлогу, а потым надзелі кайданкі. У Цэнтральным РАУСе на І.Раманава і К.Гаравую склалі пратаколы, у якіх пікетоўнікі абвінавачваліся паводле арт. 167.1 КаАП РБ (арганізацыя ці ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве). Спачатку зьбіраліся затрыманых судзіць проста ў РАУСе, але потым вырашылі судовае разбіральніцтва перанесьці на панядзелак, 31 ліпеня, пры гэтым у пікетоўнікаў узялі пісьмовыя распіскі, што яны зьявяцца ў суд.

31 ліпеня ў судзе Цэнтральнага раёну Гомеля адбылося судовае паседжаньне, у якім разглядаліся адміністрацыйныя матэрыялы ў адносінах да І. Раманава і К. Гаравой. Сьведкамі выступілі ўчастковы інспэктар Ручкін, які склаў пратакол адміністрацыйнага затрыманьня, і старэйшы лейтэнант міліцыі Панамарэнка (які пісаў рапарт аб затрыманьні). У судовым паседжаньні прадстаўніком абвінавачваемых выступаў сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Алесь Яўсеенка. Працэс цягнуўся нядоўга – усяго каля 30 хвілінаў, у выніку якога судзьдзя Яраслаў Парынскі вынес наступныя рашэньні: пакараць Кацярыну Гараву на 5 сутак адміністратыўнага арышту, Ігара Раманава – на 7 сутак адміністрацыйнага арышту.

Асуджаныя адразу былі скіраваныя дбываць пакараньне ў Гомельскі ізалятар часовага ўтрыманьня.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна"**


© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



пачатак у № 5 (22)

# МАЛАДЫ ФРОНТ ПЕРАМЕНАЎ

## II. НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ МОЛАДЗІ

Сёньняшняя беларуская моладзь — найбуйнейшы, двухмільённы корпус беларускага грамадзтва, самае масавае пакаленьне носьбітаў нацыянальнай ідэі, абаронцаў незалежнасьці, удзельнікаў апазыцыйных выступленьняў і прыхільнікаў рэформаў. Людзкія чаканьні сканцэнтраваныя на маладых. Моладзь, якой сёньня 14-30 гадоў, н а р о д ж а н а я  д а  п е р а б у д о в ы (і для перабудовы), мае велізарную прагу й патэнцыял п е р а м е н а ў — палітычных, эканамічных, сацыяльных, культуровых і духовых.

Разам з тым велізарная маса сёньняшняй моладзі апатычная й абыякавая да духовага й нацыянальнага Адраджэньня. Крымінальная й наркатычная субкультуры, распаўсюд ксэнафобіі, культу гвалту, цынізм і разбэшчанасьць — гэта страшны вынік бездуховасьці й зьнішчэньня нацыянальнае культуры. Цяперашнія маладыя — пакаленьне ня толькі Вясны-96 і Маладога Фронту, рэформаў і недзяржаўных ініцыятываў, але й фашыстоўскіх брыгадаў, эпідэміі СНІД, бэпэсэму й Нямігі. Нашых раўналеткаў, заражаных сацыяльнымі й духовымі хваробамі, пакінутых на выраджэньне й выміраньне, трэба ратоўваць. Сёньня беларускай моладзі жыцьцёва неабходны ўзроставы й сьветапоглядны МАЛАДЫ ФРОНТ ПЕРАМЕНАЎ. М а л а д ы  Ф р о н т дэмакратычных рэформаў і эўрапейскай альтэрнатывы, фронт супрацьстаяньня дыктатуры й імпэрыі, злу ў дзяржаве й грамадзтве — надзейная заслона ад камуна-гэбісцкага рэваншу, новы, сьвежы фронт Адраджэньня й духовага Абуджэньня.

Малады Фронт — прызнаны арганізацыйны й ідэалягічны лідэр, авангард беларускае незалежніцкае моладзі. У цяперашні адказны момант, на пераломе тысячагодзьдзяў менавіта ён паклікаΝы задзіночыць і павесьці за сабою ўвесь шырокі *Нацыянальны Рух Моладзі*, фронт плыняў, структураў і ініцыятываў з максымальным геаграфічным, сацыяльным і ідэалягічным дыяпазонам, аб'яднаны нацыянальнай ідэяй, хрысьціянскімі прынцыпамі й імкненьнем да поўнамаштабовых пераменаў у дзяржаве й грамадзтве.

Стварэньне праграмы "Малады Фронт Пераменаў" — першы крок да фармаваньня такога ідэалягічна глыбокага й магутнага руху, у якім новае пакаленьне Беларусі ўбачыла б рэальную апазыцыю, *альтэрнатыву* старэючаму рэжыму й імпэрыі зла. Гэта дазволіць *задзіночыць* нацыянальныя маладзёвыя сілы ў моцны Фронт Пераменаў, здольны спыніць чарговы наступ імпэрскае экспансіі.



Дванаццаць гадоў дзейнасьці БНФ заклалі сур'ёзную грамадзкую базу ідэяў незалежнасьці, эўрапейскасьці, беларускасьці. Такія ідэі ўспрынятыя, засвоеныя ці хаця б прысутныя сярод большыні моладзі. Сёньня *Малады Фронт* пакліканы зьдзяйсьняць у грамадзтве куды больш глыбокія, эфэктыўныя й структураваныя перамены, фармуляваць нацыянальную ідэю ўва ўсіх сфэрах маладзёвае актыўнасьці, ужо цяпер распрацоўваць мадэлі будучых рэформаў і абуджаць краіну дзеля Адраджэньня. Адкрыты, моцны й папулярны Нацыянальны Рух Моладзі можа стаць самім *жыцьцём* і *вобразам дзеяньня* сёньняшняе беларускае моладзі.

Нацыянальны Рух Моладзі — гэта суполкі й актывісты ў кожнай школе, вучэльні, факультэце; *эфэкт прысутнасьці* МФ у кожным мястэчку й двары; пранікненьне ўва ўсе маладзёвыя асяродкі й сфэры; няспынная сыстэмная дзейнасьць паўсюль, дзе толькі магчыма.

Нацыянальны Рух Моладзі — гэта пастаянная *каардынацыя* агульных дзеяньняў паміж усімі беларускімі незалежніцкімі маладзёвымі арганізацыямі, найшырэйшае супрацоўніцтва, узаемадапамога й *салідарнасьць дзеля Бацькаўшчыны.* Мы — Малады Фронт — абавязаныя ўзяць на сябе адказнасьць і асноўны цяжар агульнае працы.

Дзеля таго, каб стацца сэрцам Нацыянальнага Руху Моладзі, Маладому Фронту трэба зрабіць

### 10 Найважнейшых Справаў

### 1. ФАРМУЛЯВАНЬНЕ ІДЭАЛЁГІІ.

Базавая каштоўнасьць — *нацыянальная ідэя.* Задачы: пабудова незалежнае дэмакратычнае эўрапейскае дзяржавы, выхаваньне новага пакаленьня й ажыцьцяўленьне ў грамадзтве духовага Адраджэньня. Сьветапоглядная сутнасьць маладзёвага нацыянальнага руху — найлепшая, самая сучасная *беларушчына,* заснаваная на хрысьціянскіх



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



прынцыпах. Фармуляваньне нацыянальнай ідэі ўва ўсіх сфэрах і выпадках маладзёвай актыўнасьці: адукацыі й спорце, экалёгіі й музыцы, навуцы й культуры, для ўсіх асяродкаў — нефармальных і прафэсійных, гарадзкіх і вясковых. Стварэньне адмысловага Аналітычнага цэнтру; фундамэнтальныя распрацоўкі, канфэрэнцыі й сэмінары, артыкулы, PR-кампаніі з апірышчам на патэнцыял БНФ і нацыянальнае творчае інтэлігенцыі.

### 2.АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ЎПАРАДКАВАНЬНЕ.

Больш кампактная, прафэсыйная спэцыялізаваная сыстэма кіраўніцтва: намесьнікі старшыні (арганізацыі, рады, суполкі) адказныя за асобныя кірункі працы; сакратарыят, прэс-службу і камісіі па магчымасьці трэба рабіць штатнымі. Фармаваньне атмасфэры найвышэйшае *адказнасьці*, узмацненьне выканаўчае *дысцыпліны* і этыкі паводзінаў для сябраў арганізацыі. *Уніфікацыя* адміністраваньня й справаздачнасьці, анкетаў і пасьведчаньняў, структураваньне камісіяў і сатэлітных арганізацыяў на месцах. Упарадкаваньне базаў зьвестак, архіву й канцылярыі. Імкненьне да *прафэсійнае* арганізацыйнае, кадравае й структурнае працы. Падтрымка ініцыятывы шараговых сябраў МФ з боку кіраўніцтва.

### 3.ПАСТАЯННАЕ НАВУЧАНЬНЕ.

Наладжваньне шматузроўневае сыстэмы адукацыі й падрыхтоўкі кадраў для маладафронтаўцаў і прыхільнае моладзі. Курсы й лекцыі, летнікі й трэнінгі, гартаваньне лідэраў і спэцыялістаў, грамадзка-палітычнае навучаньне — праз NGO і замежных партнэраў. Стварэньне сэрыі маладафронтаўскіх мэтадычных праграмаў у як мага шырэйшым спэктры маладзёвае дзейнасьці: ад інфармацыйных тэхналёгіяў да краязнаўства, ад шоў-бізнэсу да антыСНІДу.

### 4.СТРАТЭГІЧНАЕ ФІНАНСАВАНЬНЕ.

Пошук фінансаваньня праз сыстэму адпаведна арыентаваных спонсарскіх арганізацыяў. Супрацоўніцтва з фундацыямі, што падтрымліваюць грамадзкапалітычную дзейнасьць. Стварэньне групы дзеля распрацоўкі праектаў. Выкарыстаньне інтэлектуальных і тэхналягічных рэсурсаў блізкіх да Маладога Фронту няўрадавых арганізацыяў.

### 5. РЭГІЯНАЛЬНЫ ПАД'ЁМ.

Тэрытарыяльнае структураваньне мясцовых адзьдзелаў МФ (варыянты — цэнтралізаваны, абласны, краёвы або комплексны). Найбольшая ўвага — двум рэгіёнам: Паўночнае Беларусі, дзе слаба выкарыстоўваюцца карэнныя нацыянальныя настрої, і Палесьсю, дзе сканцэнтраваныя велізарныя рэзэрвы маладзёвага руху. Прыярытэт МФ — агульнабеларускія кампаніі і акцыі. Маладому Фронту паўсюль неабходныя моцныя рэгіянальныя й мясцовыя акцэнты. Акцыі тутэйшага значэньня, націскі на тэмах гораду й раёну, краю й мястэчка, адкрыты выклік сёньняшнім мясцовым уладам па ўсім спэктры праблемаў здольны даць грамадзкую падтрымку тут і цяпер, закласьці капітальны падмурак выбараў любых узроўняў і будучых муніцыпальных рэформаў. Важны момант — падвышэньне ролі рэгіёнаў у працэсе прыняцьця рашэньняў.

### 6.ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ МАЛАДЗЁВАГА РУХУ.

Задача — імкненьне да арганізацыйнага лідэрства МФ, актыўнасьць ува ўсіх магчымых сфэрах. Узгадненьне пазыцыяў і дзейнасьці з нашымі сябрамі й калегамі зь беларускіх маладзёвых арганізацыяў. Ініцыяваньне супольных кампаніяў, заключэньне пагадненьняў аб супрацоўніцтве й фармаваньне *аб'яднанага фронту* моладзі *на грунце нацыянальнай ідэі* — з пастаянным пачуцьцём адказнасьці й жаданьнем выконваць максымум працы, заставацца цэнтрам цяжару, адыгрываць ролю *авангарду* ў маладзёвым нацыянальным руху. Кола партнэраў — ЗБС, ГФ, МГ, МХСС, "Край", БПС, скаўты, шматлікія незалежніцкія NGO.

### 7.ЗАМЕЖНАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА.

МФ мае шматлікую, але не арганізаваную сетку прадстаўнікоў ў бліжэйшым замежжы. Неабходная сыстэматызацыя, разьвіцьцё й пашырэньне нашых кантактаў праз маладафронтаўскіх навучэнцаў. Найважнейшая зона дзейнасьці — Балта-Чарнаморская супольнасьць. Нароўні зь сяброўствам у Маладых Кансэрватарах, разгортваньне максымальна шырокага супрацоўніцтва з хрысьціянска-дэмакратычнай моладзьдзю *"народных партыяў"* (у першую чаргу YEPP). Акцэнтаваньне ўвагі на магчымасьцях дапамогі, супольных акцыях і ўзаемным інфармаваньні. Распрацоўка праграмаў найшырэйшых *абменаў і сэзоннай працы за мяжой*. Актыўны ўдзел МФ у *агульназўрапейскіх* кампаніях.

### 8.ІНФАРМАЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ МФ.

Стварэньне паўнавартаснае маладзёвае газэты на базе "Весьніка". Разьвіцьцё сыстэмы лякальнай прэсы: кожнай буйной структуры МФ — свая газэта. Найшырэйшыя кампаніі *рэклямы* МФ: хвалі ўлётак, буклеты, артыкулы. Аналітычная й рэдакцыйная дзейнасьць, наладжваньне інфармацыйнага маніторынгу і зьбіраньне базаў зьвестак. Інтэрнэт: рэгулярнае й апэратыўнае абнаўленьне нашых web-старонак. PR-акцыі й як мага часьцейшыя выступы лідэраў МФ у прэсе.

### 9.КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНІЦКАЯ АКТЫЎНАСЬЦЬ.

Далейшае разьвіцьцё й падтрымка культурна-асьветніцкіх сатэлітных арганізацыяў МФ ("Маладое Адраджэньне", БМА, "Эўрапейскі шлях", "Адукатар"). Як мага больш шырокае разгортваньне сыстэмы Шоў Беларушчыны, дыджэяў Адраджэньня, дыскатэкаў і канцэртаў. Кампанія "Беларускі Нацыянальны Ўнівэрсытэт". Разбудоўваньне сеткі беларускіх відэаклюбаў, пераклад і распаўсюд сусьветна вядомых фільмаў, стварэньне беларускіх кліпаў, мастацкія выставы й вэрнісажы. Пастаяннае супрацоўніцтва з ТБМ, шматлікімі культурніцкімі цэнтрамі Беларусі й дыяспары.

### 10.СПАРТОВЫ ПРАРЫЎ.

Сёньня МФ сапраўды патрэбны спартовы прарыў. У першую чаргу фармаваньне мабільнай і дзеяздольнай *дружыны* зь філіямі ў буйных рэгіянальных цэнтрах. Пашырэньне практыкі алімпіядаў і спартовых турніраў унутры структураў МФ. Арганізацыя *фан-спартовых* клюбаў, футбольных камандаў і групаў падтрымкі (прыклад: "Offside"). Стварэньне апэратыўнай сыстэмы ўзаемадзеяньня з патрыятычна-спартовымі арганізацыямі. Распаўсюд сярод моладзі ідэяў здаровага ладу жыцьця: *у здаровым целе — здаровы дух*. Антыкрымінальныя й, антысьнідаўскія акцыі МФ, кампаніі супраць маладзёвага алькагалізму й наркотыкаў мусяць стаць дзейсным сродкам фізычнага й духовага аздараўленьня нацыі.

**(далей будзе)**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015


*Вінцук ВЯЧОРКА,*
*Старшыня БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ*

# ВЫСТУП НА ЎСЕБЕЛАРУСКІМ ЗЬЕЗЬДЗЕ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Дарагія сябры,

павіншуймася з прыняцьцем Акту за незалежнасьць. Мудрыя й усхваляваныя словы нашых сустаршыняў, творчых людзей - беларускіх патрыярхаў - натхняюць на дзеяньне. У дагэтуляшніх выступах акрэсьленыя небясьпекі для нашай незалежнасьці. У яе - спрактыкаваныя ў крамлёўска-бізантыйскіх інтрыгах, закарэлыя ў імпэрскіх войнах, цынічныя ворагі. Вынішчаюцца моўныя, культурныя, праўныя, эканамічныя падваліны незалежнага існаваньня беларускага народу. Цяжкі, але неўнікнёны абавязак адказных палітычных сілаў краіны, якія дзейнічаюць ТУТ І ЦЯПЕР (у тым ліку БНФ) - не паўтараць ранейшых памылак, не рабіць новых, а ЗНАЙСЬЦІ АДЭКВАТНЫ АДКАЗ НА ПАГРОЗУ І АДХІЛІЦЬ ЯЕ АД БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.

Масква цяміць толькі сілу. Нашая сіла, безумоўна, засьведчаная тым, што на Зьезд за незалежнасьць сабралася гэтулькі дэлегатаў. Але нашая моц і ў тым, што, нарэшце, за колькі гадоў палітычныя, грамадзкія, прафсаюзныя арганізацыі, якія вызнаюць як каштоўнасьці незалежнасьць і свабоду, лучацца ў аб'яднаную апазыцыю. У Каардынацыйную раду дэмакратычных сілаў (КРДС) пасьля IV Кангрэсу, у якім многія з вас, сябры, бралі ўдзел 2 ліпеня, уваходзіць ужо шэсьць партыяў, а таксама Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў (у сваю чаргу яднае 700 грамадзкіх згуртаваньняў), Хартыя-97, дэмакратычныя кааліцыі ўсіх рэгіёнаў Беларусі. Каардынацыйная рада выпрацоўвае супольную доўгатэрміновую стратэгію ды хуткабежную тактыку абароны незалежнасьці й змаганьня за дэмакратыю.

Наша яднаньне прывяло ўжо да рэальных вынікаў. На вуліцы Менску ўвосень і сёлета ўвесну пад незалежніцкімі лёзунгамі зноў, як у пачатку 90-х, адважна выйшлі дзясяткі тысячаў людзей, у якіх адрадзілася надзея. Наша яднаньне й нашыя акцыі былі заўважаныя сьветам (які ня любіць тых, хто толькі ные, і дапамагае толькі дзейсным і моцным). Сьвет пабачыў, што лукашэнкавай палітыцы ёсьць моцная альтэрнатыва, і ў выніку за апошні год міжнароднае стаўленьне да Беларусі зьмянілася да лепшага: нас, незалежнікаў, урэшце пачалі падтрымліваць на міжнароднай арэне. Няможна змарнаваць гэтага даверу.



Гэтаксама нашыя агульныя набыткі, якія трэ' берагчы, - і Рада БНР як сымбалічны носьбіт пераемнасьці беларускае несавецкае дзяржаўнасьці, і міжнародна прызнаная легітымнасьць Вярхоўнага Савету 13 скліканьня. Сёньня Вярхоўны Савет асэнсаваў свае колішнія промахі, дэпутаты засьведчылі мужнасьць, не паддаўшыся ані на пагрозы, ані на спакусы. Дакуль ёсьць легітымны Вярхоўны Савет - датуль міжнародная супольнасьць не прызнае ратыфікаваных палатнікамі саюзных дамоваў.

Таму восеньскія «выбары» - пастка для беларускае незалежнасьці. І Лукашэнку, і Маскве дазарэзу трэба займець міжнародна прызнаны, але цалкам падкантрольны псэўдапарлямэнт, які б надаў усемагчымым здрадніцкім «саюзным» дамовам жаданую міжнародную легітымнасьць і расчысьціў бы шлях міжнароднаму прызнаньню «саюзных» выбараў (пра падрыхтоўку якіх ужо паведаміла Масква). Рашэньне КРДС адназначнае: адказныя за лёс Бацькаўшчыны палітычныя сілы й дзеячы не бяруць удзелу ў лукашэнкавым фарсе. У нас ня выкананыя чатыры варункі свабодных выбараў: няма паўнаўладнага парлямэнту; няма свабоды слова; няма дэмакратычнага выбарчага закону; у краіне, дзе ёсьць палітвязьні й зьнікаюць людзі, пануе страх. Нашая салідарная пазыцыя - мы пераканаліся - рэальна ўплывае на міжнародную палітыку ў беларускім пытаньні, прадвызначае непрысланьне назіральнікаў і непрызнаньне выбараў у «палату».

Тыя, хто паддасца на спакусу ўладнага карыта (без рэальных магчымасьцяў уплываць на палітыку) і пойдзе на выбары, будуць парушальнікамі рашэньня Кангрэсу дэмакратычных сілаў, зь вельмі сур'ёзнымі для іх маральнымі й палітычнымі наступствамі.

Што рабіць незалежнікам увосень?

- Перамагчы праціўніка інтэлектуальна. То бок прадбачыць ягоныя лубянскія сцэнары, апярэдзіць ды нэўтралізаваць іх слушна выбранаю тактыкай, у гэтым канкрэтным выпадку - актыўным процідзеяньнем выбарчаму фарсу.

- Перамагчы інфармацыйна й псыхалягічна. Пры дапамозе незалежнае прэсы, незалежнага радыё і, урэшце, мільёнаў улётак данесьці да людзей праўду й спадзеў.

- Дзеля гэтага ініцыяваць кампанію «Народны рэфэрэндум за свабодныя выбары». Дамагаючыся выкананьня вядомых чатырох умоваў дэмакратычных выбараў, прайсьці ад дзьвярэй да дзьвярэй; заклікаць людзей ня ўдзельнічаць у выбарчым фарсе; пашыраць незалежніцкія ідэі, у тым ліку праз наш сёньняшні Акт; запрашаць на масавыя акцыі.

- Засьведчыць моц: перасягнуць колькасна й якасна веснавы парог масавых акцыяў у падтрымку незалежнасьці й свабоды, зладзіўшы прынамсі па 2 акцыі ў 24 гарадох краіны, прычым адну зь іх - у дзень выбарчага фарсу.

Гэта - тактыка аб'яднанай апазыцыі. А Фронт пачне палітычную восень з традыцыйнага заклiку на гадавіну Аршанскае бітвы ў Дзень беларускай вайсковай славы 8 верасьня. Беларуская талерантнасьць не павінна распаўсюджвацца на ворагаў незалежнасьці. Жыве Беларусь!


© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015


Пачатак на стар. 1

# АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Сёньня незалежнасьць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небясьпекай стаў дагавор аб стварэньні так званай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаны 8 сьнежня 1999 году прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасьць не прызнаецца ў большасьці краін сьвету Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі сьвету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Летувой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасьць і абмежаваць наш сувеэрэнітэт, зьнішчыць нашу краіну.

Незалежнасьць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны сувэрэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў эўрапейскую й міжнародную дэмакратычную супольнасьць.

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага Зьезду,

СЬВЕДЧЫМ

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву зь яе адвечнымі сымбалямі— бела-чырвона-белым сьцягам і гербам “Пагоня”

АБВЯШЧАЕМ

незалежнасьць і дзяржаўны сувэрэнітэт неад’емнай каштоўнасьцю беларускага народу;

ПРЫЗНАЕМ

не маючымі законнай сілы любыя пагадненьні й рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне сувэрэнітэту Беларусі;

ЗАКЛІКАЕМ

усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыньнікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акту Незалежнасьці Беларусі, бараніць незалежнасьць Айчыны парлямэнты й урады дэмакратычных дзяржаваў, міжнародныя арганізацыі й сусьветную грамадзкасьць забясьпечыць гарантыі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

**Прынята Ўсебеларускім Зьездам 29 ліпеня 2000 году ў Менску.**

# Вітаньне прэзыдэнта Чэскай Рэспублікі Вацлава Гаўла ўдзельнікам Усебеларускага зьезду за незалежнасьць

*(неафіцыйны пераклад)*

Шаноўныя ўдзельнікі зьезду, дарагія сябры!

Рады такім чынам вітаць ваш сход, які мае повязь з гістарычным першым Усебеларускім зьездам, што адбыўся напрыканцы 1917 году ды быў вызначальным крокам да ўзьнікненьня сучаснай беларускай дзяржаўнасьці.

Я ўпэўнены ў тым, што ў новым сусьветным парадку, у які мы патрапілі за мінулыя дзесяць год, ды што прынёс шмат зьменаў у нашым жыцьці, разам могуць у згодзе й роўнасьці супрацоўнічаць толькі такія ўдзельнікі, якія самі ўсьвядомілі сваё ўласнае вызначэньне. Веру, што напамін і спадчына беларускай дзяржаўнасьці ды незалежнасьці ёсьць неабходнай передумовай умацаваньня нацыянальнага самавызначэньня беларускай дзяржавы.

У сваіх размовах зь людзьмі, якія паходзяць з вашага краю ці займаюцца яго вывучэньнем, шмат разоў адчуў, што ў Беларусі жыве памяць пра тое, якім чынам абрынуўся камунізм, які панаваў на нашых землях. Уважаю за частку адказнасьці кожнага грамадзяніна Чэскай Рэспублікі, кожнага эўрапейца й уласна ўсіх, хто вызнае ды бароніць такія каштоўнасьці як дэмакратыя, правы чалавека, свабоды асобы, каб цікавіліся становішчам, у якім знаходзіцца Беларусь ды яе грамадзяне, каб паводле сваіх магчымасьцяў словам і справай дапамагалі прасоўваньню дэмакратыі ў Беларусі.

Зычу вашаму сходу спакойнай хады й багата посьпехаў

**зь вітаньнем Вацлаў ГАВЭЛ**



27 ліпеня.Пікет у Празе.

# Дзень беларускай незалежнасьці адзначылі ў Эўропе.

Сьвята 27 ліпеня адзначалася ня толькі ў Беларусі. У гэты дзень у сталіцы Чэхіі, Празе, пятнаццаць беларусаў правялі пікет ля амбасады РБ. Маладыя людзі зладзілі своеасаблівы пэрфоманс: абматаліся спэцыяльнай лентаю, што сымбалізавала становішча са свабодай асобы ў нашай краіне.

Яшчэ адзін пікет ля беларускай амбасады, але ўжо ў Варшаве, адбыўся 29 ліпеня. Правялі яго ўдзельнікі летняй сустрэчы Эўрапейскіх дэмакратычных студэнтаў: амбасаду пікетвалі прадстаўнікі правых маладзёвых арганізацыяў большасьці краінаў Эўропы, у т. л. і прадстаўнікі Маладога Фронту.

**Аляксей ШЭІН**


© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## Нацыянальныя сьцягі над Клецкам

27 ліпеня над Клецкам луналі бел-чырвона-белыя сьцягі. Тое, што нехта адважыўся іх вывесіць за ноч, вельмі не спадабалася раённаму кіраўніцтву й асабліва міліцыі. З дратоў і дрэваў сьцягі было зьняць лёгка, але з высокай іржавай трубы, што стаіць у цэнтры гораду, гэта зрабіць было амаль немагчыма. Каб залезьці па ёй на самы верх, патрэбная была вялікая сьмеласьць.

Як апавядаюць відавочцы гэтых падзеяў, выпадковым прахожым міліцыянты прапаноўвалі 50 даляраў за тое, каб зьняць апошні й самы вялікі сьцяг, але дабрахвотнікі ніяк не знаходзіліся. Тады міліцыі давялося «наняць» нейкага п'янчугу, які за чатыры пляшкі віна са страхам, але і з радасьцю зрабіў тое, на што ня быў здатны ні адзін жыхар Клецка.

**Алег НІКУЛІН**

## Крамольныя колеры на трубе ў Нясьвіжы

У Нясьвіжы ў пары дзясяткаў мэтраў ад райваканкаму стаіць лазьня з жалезнай трубою 18 мэтраў вышынёй. У трубы даўно ўжо патрэскаўся бэтонны падмурак, і на днях вырашана было яе адрамантаваць. Яе паклалі на зямлю, зрабілі ўсё неабходнае з падмуркам, і заадно пафарбавалі, бо яна была ўжо іржавая.

Безь ніякай злой думкі нясьвіскія рабочыя пафарбавалі трубу так: зьверху чорная паласа, потым белая, чырвоная, белая й зноў чорная - гэта звычайныя засьцерагальныя колеры для верталётаў ды самалётаў. Пафарбавалі й супакоіліся.

Аднак праз 15 хвілінаў прыбег супрацоўнік райвыканкаму й закрычаў: «Кто повесил флаг?! Сейчас же снимайте!». На гэта рабочыя рэзонна адказалі, што ніякага сьцягу ніхто ня вешаў, а труба папросту пафарбаваная. Тады райвыканкамавец пачаў патрабаваць, каб апазнавальныя знакі зафарбавалі. Аднак такія прапановы выклікалі ў рабочых толькі здаровы сьмех і сапраўды беларускі адказ: «Перафарбоўваць не палезем - а раптам праз год улада памяняецца?»

**Мікалай ГРЫГАРОВІЧ**

## Праваслаўная царква - толькі расейская?

***28 ліпеня ў мястэчку Пагранічны Бераставіцкага раёну быў ажыцьцёўлены напад на сьвятара Беларускай Народнай Праваслаўнай Царквы імя сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Царква месьціцца ў вайсковым намёце, узьведзеным у агародзе адной з прыхажанак.***

Тры міліцыянэры (прозьвішча аднаго зь іх Віктар Абуховіч) уварваліся ў царкву ў час набажэнства і запатрабавалі, каб айцец Ян Спасюк накіраваўся зь імі ў суд. Чакаць канца набажэнства міліцыянэры не пажадалі ды напалі на сьвятара. Пры гэтым у бойку зь імі ўступілі вернікі. Уцякаючы ад міліцыянэраў, аццец Спасюк пасьпеў патэлефанаваць журналістам ды ў амбасаду ЗША. Але ж ад перасьледу сьвятару прыйшлося ўцячы ў Горадню. Там міліцыянты ўсё ж насьцігглі сьвятара і забралі ў яго пашпарт, але журналісты газэты «Біржа інфармацыі» і іншых незалежных выданьняў абаранілі гнанага. У рэдакцыі газэты ён і атрымаў прытулак. Паводле словаў Яна Спасюка, ім ужо цікавяцца даўно, і ня толькі міліцыя. 10 ліпеня да яго наведваліся супрацоўнікі КГБ з Горадні, якія настойліва раілі яму не займацца справай адраджэньня Беларускай народнай праваслаўнай царквы, а перайсьці на службу ў любы прыход Расейскае праваслаўнае царквы. На адмову супрацоўнікі спэцслужбаў пачалі шантажаваць сп. Спасюка тым, што надрукуюць дасье, якое вядзецца на яго з 1986 году (хаця ніякае дасье ня зможа падарваць вялізны аўтарытэт Яна Спасюка). Рэальная пагроза існуе ня толькі самому сьвятару, але й ягонай сям"і - жонцы і тром дзеткам. 31 ліпеня сп. Спасюк усё-ж такі быў затрыманы. Суд, які адбыўся ў Бераставіцы на наступны дзень, цягнуўся ня больш за тры хвіліны. Айцец Спасюк арыштаваны на пяцёра сутак за непадпарадкаваньне міліцыі. Пачатак гісторыі трэба шукаць у мінулагадовых падзеях, калі Бераставіцкія ўлады адмовіліся рэгістраваць прыход Беларускай Народнай Праваслаўнай царквы ў Пагранічным, заявіўшы, што праваслаўная царква будзе толькі расейскай.

## «Падарунак» ад Дзяржкамдруку

У Дзень Незалежнасьці часопіс ARCHE атрымаў «падарунак» ад Дзяржкамдруку - папярэджаньне часопісу за ягоны апошні нумар. Афіцыйная падстава — за зьмену назвы выданьня (гэта быў выпуск аналітычна-крытычнага агляду «ARCHE-Скарына») і за тое, што часопіс распаўсюджваецца таксама за межамі Беларусі. Галоўны рэдактар выданьня Валерка Булгакаў лічыць папярэджаньне неабгрунтаваным. Адначасова часопіс адчуў на сабе «мякка-рэпрэсіўныя» меры і зь іншых бакоў: Беларускі Дом Друку спыніў ужо пачатае друкаваньне жнівеньскага нумару, а дзяржаўнае аб'яднаньне «Белкніга» адмовілася прадаваць папярэдні нумар часопіса. Выдаўцы часопіса зьвязваюць кампанію ціску з артыкуламі, зьмешчанымі ў нумары «ARCHE-Скарыны», у прыватнасьці, з рэзкім аналітычным матэрыялам В. Булгакава, прысьвечаным афіцыёзнай «Беларускай думцы». Папярэджаньне выдаўцы ARCHE зьбіраюцца абскардзіць у судзе, а друкаваньне — перанесьці ў адну зь менскіх прыватных друкарняў.

## «Паншчына» для чэрыкаўскіх беспрацоўных

Своеасаблівымі і надзвычай эфэктыўнымі мэтадамі вырашыў змагацца зь беспрацоўем Чэрыкаўскі райвыканкам. Спэцыяльным рашэньнем даведзена да дзесяці колькасьць дзён на «грамадзкай працы», якую адбываюць людзі, зарэгістраваныя на ўліку ў мясцовым цэнтры занятасьці. У іншых месцах Магілёўшчыны «паншчына» рэдка калі перавышае пяць дзён (за выключэннем Крычава — тут зрэдку даходзіць да 8 дзён). Колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных адразу ж скарацілася. Згодна статыстыцы, Чэрыкаўскі раён зьяўляецца лідарам у барацьбе з сацыяльным злом. Тут налічваецца ўсяго 224 афіцыйных беспрацоўных. Што датычыць рэальнага стану рэчаў, дык ён зусім не падобны на статыстыку: пачынаючы зь 90-х, Чэрыкаўшчына толькі афіцыйна згубіла больш за 1000 працоўных месцаў.

**BARC**



№ 3 (20), травень 2000 г, наклад 299 асобнікаў
Распаўсюджваецца бясплатна на правах нутраной дакумэнтацыі.

У нумары скарыстаная выява Пагоні з тытульнага аркуша Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

Адрас для ліставаньня: 220006, Менск, а/с 27, тэл. 284-50-12
E-mail: bnf@journalist.com
в.а. рэдактара Віктар Івашкевіч



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015